Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

19 – 25 САКАВІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 15000 РУБЛЁЎ
№12 (204)

## АДНА ЗЯМЛЯ

СМАРГОНЬ

### Новыя друкары

Новы ўчастак па вырабе друкаванай прадукцыі і пераплётных работах створаны ў МП "Актыў" завода аптычнага станкабудавання.

Напачатку ён выпускаў у месяц прадукцыі больш чым на 400 мільёнаў рублёў. Але ўжо з канца сакавіка колькасць рабочых месцаў тут будзе павялічана да 12, а аб'ём друкаванай прадукцыі і пераплётных работ – да 700 мільёнаў рублёў у месяц.

*Павел МАКЛЮК.*

СМАРГОНЬ

### Не падвялі кітайцаў

У мінулым месяцы завершана выкананне кантракта па пастаўцы оптыкаапрацоўвальнага абсталявання і вакуумных установак са Смаргоні ў Кітай. Сем адзінак упакаваныя і адпраўленыя ў Клайпеду, адкуль марскім шляхам яны ўжо плывуць заказчыку.

На чарзе выкананне новага заказу Кітая.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

### Сваім кадрам – «зялёную вуліцу»

39 вучняў 9–11 класаў горада і раёна плануюць стаць спецыялістамі ў галіне сельскай гаспадаркі. Усе яны, калі пойдуць далей вучыцца, атрымаюць мэтавыя накіраванні.

Некаторыя кіраўнікі гаспадарак (**Яўген Скрундзь** – калгас імя "Карла Маркса", **Уладзімір Круглік** – калгас імя Леніна) ужо цяпер паехалі па школах вышукваць сабе кадры. У раёне недахоп ветэрынараў, аграномаў, інжынераў–механікаў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

АШМЯНЫ

### «Засвяціўся» польскі аўтамат

За апошнія месяцы мінулага і першыя гэтага года дырэктару ААТ "Белкава" **Уладзіславу Швабовічу** не давалі спакою, бадай, толькі дзве праблемы.

Гэта крызіс у Расіі, калі з–за практычна штодзённага росту курсу долара, неплацежаздольнасці многіх расійскіх кліентаў амаль быў прыпынены гандаль кавай. Другая ж праблема тычыцца зношанасці абсталявання. Некаторыя станкі і аўтаматы дасягаюць 40–50% зносу, і таму ўжо настаў час іх мяняць.

Па першай праблеме дырэктару нічога не застаецца, акрамя пошуку дзелавых партнёраў. Другой жа на ААТ "Белкава" вырашылі заняцца сур'ёзна. Тут ужо закупілі новы польскі ўпаковачны аўтамат пад штучную ўпакоўку "Тайвань", і ў хуткім часе ён будзе задзейнічаны пры фасоўцы кавы. Падобны лёс сёлета чакае і іншае абсталяванне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

### Вымушанае супрацоўніцтва

З кожным годам цяжэй і цяжэй калгасам і саўгасам выжываць, рэдкі з іх не мае ўжо мільярдных даўгоў. Таму і нараджаюцца новыя "формы супрацоўніцтва" вяскоўцаў з прамысловымі прадпрыемствамі.

Завод аптычнага станкабудавання абавязаўся дапамагчы сёлета ў вырабе запчастак да сельгасмашын калгасу імя Дзяржынскага, а таксама ўбраць сваімі сіламі па 15 гектараў ільну і бульбы, па неабходнасці, рамантаваць тэхніку калгаса.

Вяскоўцы ў адказ гарантуюць забяспечыць работнікам завода ўмовы для высокапрадукцыйнай работы, па выніках года заахвоціць лепшых тым ці іншым чынам.

А яшчэ за заводам замацавалі 2 гектары калгаснага саду. Магчыма, прамыслоўцы будуць і са сваімі яблыкамі.

*Павел МАКЛЮК.*

МЯДЗЕЛ

### Вясна: за стрэльбу

622 паляўнічыя, якія зарэгістраваныя ў паляўнічай гаспадарцы, рыхтуюцца расчахліць стрэльбы. З 19 сакавіка распачынаецца сезон веснавога палявання.

З гэтага дня дазволена паляванне на гуся. А яшчэ праз колькі дзён можна будзе пастраляць цецярука ды вальдшнепа.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

АШМЯНЫ

### Дошку змайстравалі, перадавікоў не знайшлі

Амаль год мінуў з таго часу, калі ля будынка выканкома была ўзведзеная дошка гонару. Трэба меркаваць, на ёй, як і ў не такія далёкія савецкія часы, планавалася змяшчаць партрэты лепшых людзей, перадавікоў вытворчасці Ашмяншчыны.

Але і да гэтага часу ніводзін з партрэтаў перадавікоў так і не змешчаны на дошцы. Ці то на Ашмяншчыне няма добрых працаўнікоў, ці яны не жадаюць, каб іх "вывешвалі".



*Аддзел інфармацыі.*

ЗАКУЛІССЕ

## "Міс Маладзечна" – школьніца Каця Акульская



*Між іншым, "Міс Маладзечна" магла не прайсці адборачны тур. Тады журы доўга раілася – на іх думку, рост Каці Акульскай не надта стандартны для падобных конкурсаў. Аднак рост каралевы на троне абмяркоўваць не прынята.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Грымёрныя музвучылішча ў мінулую нядзелю нагадвалі студэнцкія аўдыторыі. За паўгадзіны да выхаду на сцэну канкурсанткі, быццам пад гіпнозам, завучвалі звесткі пра сябе. З іх дрыжачых рук падалі шпаргалкі.

Памагатыя – маці, сёстры, сяброўкі – займаліся гардэробам, падбадзёрвалі. Лепшага месцазнаходжання, чым за сцэнай, для карэспандэнта не знайсці.

Спачатку да мяне ставілiся насцярожана, потым ужо не саромеліся пераапранацца. У выніку пачаставалі кілбасой, чаем, пячэннем і адкрыта гаварылі пра конкурс.

*Заканчэнне на 2–й стар.*

СЕСІЯ

## Гарадскія грошы падзялілі

МАЛАДЗЕЧНА. На сесіі гарадскога Савета (хутчэй за ўсё, апошняй для гэтага склікання) дэпутаты прынялі бюджэт горада на сёлетні год. За дванаццаць месяцаў разыдзецца больш за трыльён семсот пяцьдзесят мільярдаў рублёў.

***Структуру расходаў на 1999 год глядзіце на 3–й стар.***

Найбольш дафінансуецца з абласнога бюджэту будаўніцтва. Прыкладам, закладзеных 5 мільярдаў (на сёння, гэта каля 11 тысяч долараў) на будаўніцтва школы ў 6–м мікраараёне хопіць толькі на ўзвядзенне дзвюх аўдыторый. Сума павінна толькі адзначаць артыкул расходаў, а сродкі дае вобласць.

Ёсць сферы дзейнасці, якія поўнасцю фінансуюцца з іншых крыніц – гэта міліцыя. Таму на праваахоўную дзейнасць і забеспячэнне бяспекі закладзена толькі 250 мільёнаў.

Былі спрэчкі па дапамозе ФК "Маладзечна", закладзеная лічба 15 мільярдаў. Дэпутат **Лавіт** зазначыў:

– Чаму кіраўніцтва клуба не праінфармавала наконт службовых акладаў, якія грошы клуб атрымаў за пераход футбалістаў у іншыя каманды?

Таму дэпутаты прагаласавалі за тую суму, якая ўжо страчаная на патрэбы клуба (за студзень–люты каля аднаго мільярда трохсот мільёнаў рублёў). У бліжэйшы час з ФК "Маладзечна" мусяць дэталёва разабрацца.

Адзначана, што горад фінансуе 72 установы. А на пакрыццё сёлетніх страт па гарадскіх аўтобусных перавозках прадугледжана 40 мільярдаў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ДЗІКУНСТВА

## Немаўля на сметніку

***МАЛАДЗЕЧНА. У мікраараёне Лясныя у кантэйнеры для смецця знайшлі труп нованароджанай дзяўчынкі. Апошнім часам гэта, на жаль, не адзіная такая знаходка ў горадзе.***

Раніцой састарэлая жанчына выкідвала смецце. Унутры кантэйнера сабакі нешта тузалі, затым выцягнулі "гэта". Жанчына, якая трымала ў сваім доме некалькі кошак, вырашыла пацікавіцца сабачай здабычай. Шуганула жывёл і наблізілася да поліэтыленавага пакета. Яго мяснoе начынне ўразіла – там была нованароджаная дзяўчынка.

Пазней высветлілася, што немаўля нарадзілася мёртвым. Дзе? У каго? Хутчэй за ўсё, гэтыя пытанні застануцца без адказаў. Забойства не было, крымінальная справа не ўзбуджаная.

Можна толькі здагадвацца, што нарадзіла непаўналетняя. У жаночую кансультацыю не звярталася, на ўліку не стаяла. Дзяўчынка нарадзілася з чэрапна–мазгавой траўмай. І гэта вырашыла яе лёс.

На думку спецыялістаў, роды былі цяжкія і балючыя. Не абышлося без чыёйсьці дапамогі. Немаўлятка маглі выцягваць, магчыма, нават і шчыпцамі: чэрап быў сплюшчаны. Пупавіна абрэзаная нечым тупым. Там жа, у пакеце, быў і так званы паслед.

Трупік уклалі ў поліэтыленавы пакет і, магчыма, аднеслі ў іншы мікраараён. У сметнік: да пацукоў, кошак, сабак.

Пасля таго, як "маці" знойдуць, акрамя маральнага ганьбавання, ёй нічога не пагражае.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*Знаёмы малюнак.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ВІЛЕЙКА. Тут падобны выпадак быў у 1997 годзе. Смеццезборачная машына разгружалася на звалцы. Сярод смецця заўважылі поліэтыленавы пакет з дзяўчынкай–немаўляткам. Як потым высветлілася, нарадзіла навучэнка мясцовага ПТВ. Яна дала жыццё сваёй дачцэ, затым адабрала, а трупік выкінула на сметнік.

Годам раней быў такі выпадак. Работніца аднаго са сталічных камбінатаў прыехала ў Вілейку да сястры нараджаць. Нарадзіла і хацела свайго жывога сына змыць ва ўнітазе.

Не паспела здзейсніць злачынства, бо ў яе самой адкрыўся крывацёк. Прыйшлося выклікаць хуткую дапамогу.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН. Такая жудасная знаходка была больш за 10 год таму. Пра дэталі таго здарэння мала хто памятае.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

КУЛЬТУРА

## Вілейка: чэргі за білетамі на тэатральную "Сакавіцу"

ВІЛЕЙКА. Адкрыццё фестывалю прайшло на гэты раз у Вілейцы. У цырымоніі задзейнічалі акцёраў мясцовага народнага тэатра. На адкрыцці ў чацвер зала гарадскога Дома культуры, разлічаная на 600 месцаў, была шчыльна запоўненая. І на астатнія спектаклі ў пятніцу і суботу білеты прададзеныя. Вілейчане пазнаёмяцца з творчасцю вядучых драматычных тэатральных калектываў: рускім тэатрам імя М. Горкага, «коласаўцамі», "купалаўцамі".

У сваю чаргу, акцёры пазнаёмяцца не толькі з гледачамі, горадам, але і са сферай абслугоўвання – будуць начаваць у мясцовай гасцініцы.

Акрамя гараджан, на спектаклях пабывае многа і сяльчан. Фестываль у Вілейцы сутыкнуўся з традыцыйнай маладзечанскай праблемай – немагчыма задаволіць усіх жадаючых трапіць на "Сакавіцу".

*Аддзел інфармацыі.*

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Адзенне для маламаёмных

АШМЯНЫ. Простым смертным пражыць сёння цяжка. Як ні круціся, а грошай нават на самае неабходнае не хапае. Ашмянцам тут крыху пашчасціла.

Пры аддзяленні сацыяльнай дапамогі створаны і дзейнічае пункт збору адзення для маламаёмных. Загадчыца аддзялення сацдапамогі **Вольга Станулевіч** распавядае, што ў гэты пункт кожны можа прынесці, пры жаданні, непатрэбныя яму рэчы, якія затым раздаюцца тым, хто мае ў іх патрэбу. Нядаўна, прыкладам, 20 чалавекам, што стаяць на ўліку ў аддзяленні сацыяльнай дапамогі, было перададзена сабранае адзенне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВЫХАВАННЕ

## Усюды будуць патрыёты

СМАРГОНЬ. Праграму патрыятычнага выхавання моладзі зацвердзіў райвыканком. Ёй прадугледжваюцца агляды–конкурсы, турніры, акцыі, агляды работы музеяў, адкрыюцца кніжныя выстаўкі, адбудуцца тэматычныя дыскатэкі, вечары адпачынку, сустрэчы з ветэранамі.

Дапамагаць моладзі прызначаныя райваенкамат, упраўленне адукацыі, аддзел культуры, аддзел сацыяльнай абароны насельніцтва, дзве пагранічныя часці і воіны–лакатаршчыкі.

*Павел МАКЛЮК.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## – У Вілейцы страляўся лёкай

**М. Парафіянава Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Каля нас з'явіліся нейкіе незнаёмые людзі, што радзяць мужыком ехаць на заработкі ў Сыцылію (у Італіі) – туды, дзе недаўна было зямлітрасеньне і дзе разбурыўся датла горад Мэссына. Гэтыя агенты пакызываюць пазваленьне ад начальства і кажуць, што іх тутака прыслала нейкая хэўра немецкая. Яны даюць на першы пагляд бытцам і добрую цэну – 40 рублёў у месяц, кантрактуючы на поў года, ды ешчэ грошы на праезд. Але, хто знае варункі ў Сыцыліі, той ведае, што 40 рублёў у месяц на сваіх харчах вельмі малая цэна, і што тамашнім работнікам плацяць разы ў тры болей. Апроч таго трэба помніць, што на дарогу назад яны грошэй не даюць, – а пехатой ня вернешся, дык, калі які рубель–другі і астанецца, усё роўна страціш на дарогу. Сьцеражыціся, мужыкі, бо пасьля вінаваціць будзеце толькі сябе! Гэтакіе прыклады ўжо не раз бывалі. Нядаўна ў Галіцыю (у Аустрыі) так сама прыехалі нейкіе агенты і павязьлі мужыкоў–палякоў у Брызілію (у Амэрыцэ), абецаўшы добрые заработкі пры будове чыгункі. Але, як прыйшло што да чаго, дык тые мужыкі ня толькі нічога не зарабілі, але ешчэ і галадалі, бо харчы давалі ім саўсім дрэнные, і яны нават мусілі зьвярнуцца да правіцельства свайго, каб яно паклапацілося аслабаніць іх ад цяжкага кантракту.

Пятрок Праўдурэж.

**М. Смаргонь Віленскай губерніі Ошмянскага пав.**

Недаўна адбываліся выбары старшыні смаргонскай воласьці; перэцягівала усюды гарэлка, – значыць, хто хацеў, каб яго выбралі, той павінен быў даць сходу гарэлкі больш за другога. Пасля выбароў выбарныя пайшлі сьцебаць манапольку.

П. М.

**Г. Вілейка (павет) Віленскай губ.**

10 марца ў ночы наш сьпячы гарадок пачуў стрэлы. Гэта на вуліцы стрэліў у сябе ядзін чэлавек – лякай; ён павадзіўся чагось, кажуць с кухаркай, напіўся, узяў рэвольвер ад свайго пана; ён яшчэ жывы.

К–тя.

Першая беларуская газета з рысункамі "Наша Ніва" №12 ад 19 марца 1909 года.

**Г. Ашмяна Віленскай губ.**

– Горад наш жыве спакойным жыцьцём без клопатаў, – нашы гарадзкіе айцы якбы атпачываюць па выбарах у ўправу.

– Ужо колькі гадоў чутно аб вучылішчы: хочуць аткрыць або гарадзкое вучылішчэ з зямельнымі клясамі, або прогімназію. Пляц пад школу дае горад (на конскім рынку) і грошы на 600 рублёў у год; жыды адразу даюць тысячу рублёў, але справа гэта, здаецца, пахавана ў гарадзкім архіве. Турэм маем аж чатыры: пры паліцыі (предварылка), ёсьць арэстны дом, следствена турма і ісправіцельны арэстанцкі дом; а вучылішч за тое два: гарадское і цэркоўна прыхадское. І хто хочэ пазнаць Ашмянское жыцьцё, можэ судзіць па яго будынках. Народ цёмны і праз сваю цямнату напаўняе вастрогі.

Знаёмы.

*Першая беларуская газета "Наша Ніва" №13–14 ад 26 марца.*

*Падрыхтаваў Аляксандр ВЫСОЦКІ.*

ВЯРТАННІ

## Прапіска для Леніна ды Пушкіна

• МАЛАДЗЕЧНА. Магчыма, у горадзе зноў з'явіцца вуліца А. Пушкіна.

З прапановай адзначыць такім чынам юбілей рускага паэта на сесіі гарсавета выступіў дэпутат **Уладзімір Клешч**. Адначасова, на яго думку, было б няблага вярнуць Вялікаму Гасцінцу былую назву – праспект У. Леніна.

*Аддзел інфармацыі.*

## Зноў стварылі жансавет

СМАРГОНЬ. Яшчэ да аб'яднання ў адну адміністрацыйную адзінку раёна і горада існавалі паасобку дзве грамадскія жаночыя арганізацыі. Аднак затым яны распаліся.

А затым у райвыканком сталі паступаць жаночыя просьбы аб аднаўленні работы савета. Нядаўна ён створаны, узначаліла жансавет намеснік старшыні райвыканкома **Святлана Шмыга**. На гэтай жа канферэнцыі быў створаны і дзіцячы фонд, які ўзначаліла работніца ўпраўлення адукацыі **Валянціна Шэлег**.

*Павел МАКЛЮК.*

ДЭМАГАРФІЯ

## Чакалі Машу, а з'явіўся і Максім

ВАЛОЖЫН. Нарадзілася першая сёлетняя двойня. У маладой сям'і **Куцэвічаў** з горада чакалі першынца, а атрымаліся **Маша і Максім**.

Яшчэ адна сям'я таксама мае "ў праекце" двойню. Цяжарная жанчына пра гэта ведае.

У раёне штогод некалькі такіх выпадкаў. Аб нараджэнні адразу трох немаўлятак старажылы не памятаюць.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## "Выдатнік" дэмаграфічнага становішча

ВІЛЕЙКА. **Таццяна Гуліцкая** ўзнагароджаная ордэнам маці. Яна нарадзіла і выхоўвае 8 дзяцей.

Ордэн урачыста ўручылі ў выставачнай зале гісторыка–краязнаўчага музея. У горадзе і раёне Т. Гуліцкая – адзінаццатая маці–ардэнаносец.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ЗАКУЛІССЕ

## «Міс Маладзечна»–1999

*Пачатак на 1–й стар.*



*Удзельніцы конкурсу на перапынку.*



*Гэта не стрыптыз перад фотакамерай, а падрыхтоўка да чарговага тура.*



*«Рыштунак» удзельніцы.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

**Ірына Зянько**, сястра канкурсанткі:

– Такое адчуванне, што не мая родная сястра выйдзе на сцэну, а я сама. На нашу прыгажуню патрацілі 250 долараў. Купілі 2 пары туфель, вячэрнюю сукенку, маладзёжны касцюм. Асабліва ўсім дамашнім дасталося сёння ноччу – праз кожную гадзіну "наша" прачыналася.

**Наталля Шараговіч**, маці канкурсанткі:

– Маёй **Анастасіі** зрабілі прычоску за 800 тысяч, макіяж за 500. Скажыце, конкурс не фікцыя? Месцы загадзя не падзеленыя?

**Аня Цярэнцьева**, сяброўка канкурсанткі:

– Я візажыст, масажыст, цырульнік для **Наталлі**. А галоўнае, трэнер і кансультант. Тыдзень таму я ўдзельнічала ў раённым конкурсе "місак". Удзел ва ўсім гэтым мне вельмі падабаецца. Мой муж **Эдуард** мяне разумее. Вось і цяпер адпусціў на конкурс, а сам сядзіць дома з дзецьмі.

Адзінаццаць канкурсантак–фіналістак (адборачны тур прайшоў з месяц таму) выводзілі на сцэну сямікласнікі, удзельнікі ансамбля "Блакітная лагуна" сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў. Яны ж падводзілі дзяўчат у вясельных убраннях да гледача – відовішча запамінальнае. Акрамя дэманстрацыі шлюбнай сукенкі, канкурсанткі выходзілі ў вячэрнім, дзелавым, маладзёжным касцюмах, закрытым купальніку.

**Людміла Лагуновіч**, харэограф:

– Мы ўклаліся ў 6 рэпетыцый. Перад тым конкурсам, што прайшоў паўтара года таму, было 32 рэпетыцыі. Дзяўчаты вучыліся асновам харэаграфіі, як трымацца на сцэне, адпрацоўвалі выхад на сцэну ў кожнай намінацыі.

### Канкурсанткі

**Надзея Соніч**:

– Хвалююся толькі тады, калі выходзіць у купальніку. Ведаю, пластыкі малавата.

**Людміла Бялькевіч**:

– Какурэнцыя моцная. Лічу, што павінна ўвайсці ў тройку прызёраў.

**Вольга Гулевіч**:

– Ідэальны склад журы, мяркую, – палова мужчын і палова жанчын. І паболей сярод іх спецыялістаў. Тут амаль усе мужчыны. Наконт спецыялістаў не пачула – увагу адцягнула нешта іншае.

**Наталля Дземідзенка**:

– У варажбу не веру. А на шчасце заўсёды з сабою нашу шпільку.

У канцэртнай зале музвучылішча быў аншлаг. Налічыў з дзесятак аматарскіх кінакамер. Заўважаная леташняя міс – **Іна Каханоўская**. Гледачы ва ўзросце – пераважна, інтэлігенцыя. Музычныя адбіўкі паміж намінацыямі былі за вілейчанамі. Кіраўнікі студыі "Экспромт" **Нэлі і Алег Зайцавы** прывезлі сваё славутае трыо: **Наташу Салаву, Вольгу Азарынскую і Алесю Дзержавец**.

**Алег Зайцаў**:

– Учора прыехалі з Магілёва, з "Зорнай ростані". Заўтра едзем на рэпетыцыю да **Міхаіла Фінберга**. З нашымі раз'ездамі дзяцей выганяць са школы, а нас з работы.

Гарадскі Дом культуры правёў конкурс "Міс Маладзечна" на добрым узроўні. Старшыня журы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** перад вынясеннем "прысуду" сказаў:

– Калі гаварыць, што журы было цяжка, значыць, нічога не сказаць. У кожнага гледача свая "міс". Фіналісткам дзякуй ужо за тое, што яны адважыліся выйсці на сцэну.

Пасля ўсіх намінацый і перад вызначэннем пераможцаў трыо "Экспромт" весяліла гледачоў, журы раілася, а ўдзельніцы за сцэнай утварылі сваю невялічкую дыскатэку – каб зняць стрэс.

Іхнія маці нервова даядалі ўсё, што заставалася ад "зсабоек". А вынік такі. Карону (зрабіла яе з саломкі народны ўмелец **Нэлі Чарвонцава**) "міс Маладзечна" атрымала вучаніца СШ №2 **Каця Акульская** – цырульня фірмы «Слава», што па вуліцы Хмяльніцкага, абавязалася бясплатна рабіць ёй прычоскі да канца года. Віцэ–міс і міс "Зачараванне" сталі навучэнкі ПТВ–87 **Алена Селятыцкая і Вольга Бобрык**.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

КОНКУРС НА ПАДМАН

# Чаму дзень спажыўца адзначаецца толькі раз на год?

*15 сакавіка – нашае свята, свята людзей усіх нацыянальнасцяў, узростаў, веравызнанняў. Хаця дзень спажыўца – гэта, хутчэй, не свята (як, да прыкладу, Дзень Канстытуцыі, які таксама 15 сакавіка, ці летнія канікулы), а лад жыцця.*




*Пра спажыўца паклапаціліся – і выпіць, і закусіць.*

ФОТА П.А.ПАРАЦЫ.

Бо штодзённа мы нешта купляем. І не дапамагаюць нам у разліках з прадаўцамі ні калькулятары, што носім з сабою, ні пільнае спрактыкавана–натрэніраванае вока. Як спажыўцоў падманвалі, так і падманваюць.

Старшыня Маладзечанскага таварыства спажыўцоў **Уладзімір Клечч** гаворыць, што за мінулы год праз таварыства гараджанам вярнулі 573 мільёны рублёў. Некалькі спраў разглядалася ў судах – у Маладзечне, Вілейцы, Смаргоні, Мінску. За два з паловай сёлетнія месяцы ўжо 23 чалавекі прыйшлі ў таварыства спажыўцоў з заявамі.

Калі суміраваць заявы, то відаць, што найбольш скардзімся на гандлёвае абслугоўванне, потым на якасць тавараў і паслугі.

Шаноўныя спажыўцы! Вам не даводзілася купляць бутэлечнае піва з прусакамі за шклом? Ці яшчэ нейкія незвычайныя рэчы?

Пра звышцікавыя выпадкі пішыце і не забывайцеся пакідаць свой адрас ці нумар тэлефона. Ананімныя лісты ці тэлефонныя званкі ў залік не ідуць.

*Васіль СПАЖЫВЕЦ.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Чайнворд «Т»

*Падрыхтавала Ірына Буцер, Маладзечна.*



1. Памідор. 2. Кароткая застольная прамова. 3. Міжнародны дагавор, пагадненне. 4. Той, хто займаецца турызмам. 5. Урач–спецыяліст па ўнутраных хваробах. 6. Шаблон. 7. Насякомае ў гарачых краінах, якое з'яўляецца шкоднікам драўніны. 8. Перавозка грузаў праз прамежкавыя пункты. 9. У вершаскладанні – трохрадковая страфа. 10. Пачуццё меры, уменне паводзіць сябе належным чынам. 11. Найбуйнейшая вагавая адзінка антычнага свету. 12. Галіна народнай гаспадаркі. 13. Словы, на якія напісана музыка. 14. Кандытарскі выраб. 15. Надзвычайныя прыродныя здольнасці. 16. Геадэзічны інструмент для вымярэння на мясцовасці гарызантальных і вертыкальных вуглоў. 17. Парусінавая стрэшка для аховы ад дажджу. 18. Род мэблі для сядзення. 19. Прыстасаванне для праходу па адным. 20. Сталіца Узбекістана. 21. Прыстасаванне для забеспячэння пастаяннай тэмпературы. 22. Шырокая дарога. 23. Апытальнік для сацыялагічнага абследавання. 24 Верш з 8 радкоў.

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №11.***

**Па гарызанталях**: 1. Інтэрвенцыя. 2. Арэол. 3. Фрэгат. 4. Каваль. 5. Шпіён. 6. Прырода. 7. Ротар. 8. Жаба. 9. Араб. 10. Нетры. 11. Узлесак. 12. Нюанс. 13. Арэнда. 14. Ірыдый. 15. Карэц. 16. Мінералогія.

**Па вертыкалях**: 17. Знахар. 18. Мэта. 19. Анёл. 20. Рытуал. 21. Архітэктура. 22. Эфір. 23. Ультрамарын. 24. Адрасат. 25. Архаізм. 26. Ножны. 27. Ідылія. 28. Егер. 29. Эрозія. 30. Цмок. 7. Рубін. 15. Кіёк.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Прыпякло

Глядзелі суседзі, як Пятро хуткімі тэмпмі ўзводзіць лазню. Ды і жонка дапамагала.

– На іншых работах так не спяшаецца. Што магло гэта значыць?

Драўляная будыніна, лазня задыміла ў суботу ў в. Куцькі. Гаспадар насіў у бочку вёдрамі ваду. Быў вясёлы, падпяваў. Як–ніяк, "прэзентацыя" аб'екта асобага прызначэння.

Вада ў бочцы гатовая была закіпець. Нікога гаспадар лазні не запрасіў з суседзяў. Недзе вычытаў, што вельмі карысна мыцца з жонкай: уздымаецца настрой, растуць пачуцці адзін да аднаго.

У ход былі пушчаныя венікі. Чулася:

– Яшчэ пары, яшчэ, на шкадуй.

Пятро не зводзіў вачэй з прывабнай фігуры жонкі.

Настала пара пацерці мачалкай спіну. Жонка нахілілася, абаперлася рукамі аб палок. Муж быў адзаду з мачалкай, раптам паслізнуўся на мокрай падлозе і задняй часткай цела дакрануўся да вельмі гарачай бочкі, узроў і падаўся ўперад.

Жонка, не разабраўшыся:

– Я цябе прасіла спіну пацерці, а ты немаведама чым хочаш заняцца, ды з крыкам! Што суседзі скажуць, калі пачулі?

Але гнеў свой кабета змяніла на літасць, бо разабралася, у чым справа. Яе Пятро ад душы шчыраваў мачалкай, што самой ёй хацелася крыкнуць.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

ПАРАДЫ АГАРОДНІКУ

*Каляндар работ на год*

## Маліна чырвоная

Часцей за ўсё маліну высаджваюць уздоўж плоту на мяжы з суседнім участкам. Звычайна такі маліннік мае запушчаны выгляд, у ім размнажаецца шмат шкоднікаў і з'яўляюцца шматлікія хваробы. Некаторыя садаводы лічаць, што, калі маліна расце ў лесе, то і на ўчастку яе можна пасадзіць у цені яблынь, ліп і клёнаў. Такое рашэнне таксама няправільнае. Маліна – расліна сонечных лясных узлескаў, абароненых ад ветру палян і рэдкалесся, дзе зімой накапліваецца шмат снегу. Таму і на ўчастку для яе патрэбныя добра асветленыя зацішныя куткі.

Усе работы па доглядзе за малінай важна выконваць строга ў тэрмін. Заўважана, што калі ў першую палову лета дрэнна змагацца з пустазеллем і лішнімі парасткамі маліны паміж радамі, можна згубіць трэцюю частку ўраджаю.

**ЛЮТЫ–САКАВІК.** Прыгнутыя на зіму сцяблїны пладаноснай маліны павінны як мага пазней знаходзіцца пад слоем снегу, які абароніць іх ад маразоў, адліг і перагрэву ў сонечныя дні. Падсыпаючы снег, не агаляйце глебу каля кустоў.

Паклапаціцеся пра накапленне снегу паблізу ад маладых кустоў маліны.

У пагодныя дні займіцеся падрыхтоўкай апор. Для апор падыходзяць калы з бярозы або сасны дыяметрам 5–10 см і вышынёй 2,2–2,4 м. З калоў здыміце кару, ніжнія канцы змясціце на два–тры дні ў раствор меднага купарвасу (1 кг купарвасу на 50 л вады).

## Вішня

Вішня расце на ўчастках многіх садаводаў–аматараў, а вось штогод пладаносіць далёка не ва ўсіх. Культура гэтая вельмі патрабавальная. Паспяховае вырошчванне яе залежыць ад правільнага выбару месца для пасадкі, падбору сартоў, стараннага догляду. Памылкі, дапушчаныя пры пасадцы саду, не толькі зніжаюць ураджай, але і прыводзяць да заўчаснай гібелі дрэў.

**САКАВІК**. У першай палове месяца для прыцягнення птушак развесьце ў садзе шпакоўні. З сярэдзіны сакавіка можна пачынаць абрэзку вішні.

СЕКТАР СПОРТУ

# Трэція ў вобласці

БАРЫСАЎ. Прайшоў фінальны турнір першынства Міншчыны па міні–футболе.

У складзе шасці каманд атрымаў права гуляць і прадстаўнік Маладзечна - ЗЛМК. У табліцы прадстаўленыя зыходы матчаў нашых землякоў супраць адпаведных сапернікаў.

| *месцы* | *каманды* | *вынікі* |
|---|---|---|
| 1. | Жодзіна | 3:6 |
| 2. | Мар. Горка | 2:4 |
| 3. | ЗЛМК (Мал.) | # |
| 4. | Барыс. р–н | 3:3 |
| 5. | Капыль | 7:2 |
| 6. | Чэрвень | 12:1 |

У стартавай сустрэчы з калектывам Барысаўскага раёна завадчане мелі перавагу, але на апошняй хвіліне сапернікам пашанцавала, яны вырвалі нічыю. Потым гулялі супраць жодзінцаў, у складзе якіх шмат людзей, якія прайшлі школу вялікага футбола ў тамтэйшым "Тарпеда". Далей прыйшлося прайграць і Мар'інай Горцы, за якую выступала нямала дасведчаных у міні-футболе гульцоў. Праўда, як расказаў наш капітан **Ігар Шыян**, можна было пераламіць ход гульні: ён асабіста не выкарыстаў некалькі добрых выхадаў сам-насам з галкіперам. Дарэчы, увогуле забіў ледзь не палову галоў каманды з 27 на гэтым турніры. Выйгралі ў Капыля, і перад апошнім турам мелі нулявы баланс розніцы забітых і прапушчаных мячоў, а ў Барысаўскага раёна было +10. Так што прыйшлося разграміць Чэрвень і чакаць зыходу сустрэчы канкурэнтаў за трэці радок у табліцы. Барысаўчане прайгралі, і пры аднолькавай колькасці ачкоў у нашых атрымалася лепшая розніца галоў.

Ездзілі дзевяць чалавек. Два раўназначныя варатары: **Уладзімір Прудніковіч** і **Аляксей Цярэшка**. Стартавая чацвёрка: **Аляксандры Лепеш** і **Субач, Валерый Мініч**, **Ігар Шыян**. На замены выходзілі **Уладзімір Багіна, Аляксандр Страх** і **Дзяніс Гневашаў**.

Такім чынам, трэцяе месца, грамата ад аблвыканкома і чаканне прапаноў на ўдзел у іншых цікавых турнірах.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

СМАЧНА ЕСЦІ

***Слаўны торцік, падобны па смаку і выглядзе на шарбет, але нашмат таннейшы***

## Проста торцік

Пячэнне (самае таннейькае) прапусціць праз мясарубку, дадаць згушчонку (можна вараную), мяккае масла і рубленыя грэцкія арэхі (можна яшчэ і разынкі).

Добра перамяшаць, памясціць у якую–небудзь форму і паставіць у халадзільнік прыкладна на суткі.

| | |
|---|---|
| пячэнне | 2 пачкі (200 г) |
| масла | 1 пачак |
| згушчонка | 1 бляшанка |
| арэхі | 1 шклянка |

***Рэцэпт, трэба прызнацца, вельмі няпросты, але можна і пастарацца дзеля блізкіх або каханых.***

## Мясныя рулецікі ў чырвоным віне

Свініну парэзаць як на адбіўныя. Добра адбіць, пасаліць, паперчыць. Шампіньёны (або іншыя грыбы, калі вы нарыхтоўкі на зіму робіце) адварваць на працягу 15 хвілін, затым абсмажыць у масле з дробна парэзанай цыбуляй. Сумесь з цветнай капусты, браколі і морквы адварыць да паўгатоўнасці. Печань (ялавічную або гусіную) адварваць на працягу 20 хвілін, затым астудзіць, здрабніць з дапамогай міксера, дадаць 2 сталовыя лыжкі масла, пасаліць і паперчыць па густу. Чарнасліў парэзаць (не дробна). Фарш з цяляціны змяшаць з печанню, чарнаслівам, гароднінай і шампіньёнамі.

Атрыманую сумесь размясціць на адбіўных, адбіўныя закатаць у рулецікі (так, каб яны атрымаліся не вельмі тоўстыя), замацаваць драўлянымі зубачысткамі і хутка абсмажыць у масле да ўтварэння румянай скарыначкі. Затым, асцярожна выдаліўшы зубачысткі, скласці ў патэльню з тоўстымі сценкамі, паліць віном (чырвоным, "Мерло", напрыклад) і тушыць у духоўцы каля 30 хвілін пры тэмпературы 220 градусаў.

Есці можна як гарачымі, запіваючы «Мерло», якое засталося, так і халоднымі.

| | |
|---|---|
| свініна | 1 кг |
| фарш з цяляціны | 200 г |
| шампіньёны замарожаныя | 400 г |
| сумесь з агародніны | 1 пакет |
| печань ялавічная або гусіная | 300 г |
| чарнасліў без костачак | 10-12 шт. |
| цыбуліна | 1 маленькая |
| чырвонае віно тыпу "Мерло" | 1 шклянка |

*Наташа ГАМОЛКА.*

ГАРАСКОП 22–28 САКАВІКА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Кепскі дзень 23, важны 25. Будзь уважлівы ў адносінах з новымі знаёмымі, бо яны могуць стаць табе сур'ёзнай перашкодай у дасягненні тваёй мэты.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Добры дзень 28. Цябе чакаюць рамантычныя прыгоды з каханым чалавекам.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Табе трэба ўспомніць пра адпачынак. Праца – гэта добра, але ёсць яшчэ і асабістае жыццё.

**РАК (22.06–23.07)**
Добрыя дні 26–28. Твой поспех залежыць толькі ад цябе.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Кепскі дзень 22. Твой прафесіяналізм абавязкова будзе адзначаны.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Важны дзень 27. На асабістым фронце ўсё будзе проста цудоўна.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Добрыя дні 24, 25. З блізкімі ў цябе будзе поўнае ўзаемапаразуменне.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Дзейнічай смела па ўсіх напрамках.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добры дзень 28, важны 24. Сямейны бізнес паступова пойдзе ўгору.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Кепскія дні 22–24. Цвяроза ацэньвай адносіны навакольных да сябе.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добрыя дні 26–28. Дзейнічай смела!

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Важны дзень 23. Не адкладвай справы.

